*Няхай жыве саюз рабочых і сялян!*

# ЧЫРВОНЫ СЕЙБІТ

ДВУХТЫДНЁВЫ ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ ДАДАТАК ДА „БЕЛАРУСКАЙ ВЕСКІ"

№ 17. Пятніца 30-га верасьня 1927 г. № 17.

## СЬПЕВЫ ВЯЧОРНЫЯ

Рыгор Камлыга

Там, дзе захад у журавіне,
Ветры звоняць у званы—
Вечар сіні па даліне
Расьцілае туманы.
На аблонях вечар млявы
Абсыпаў траву мукой;
Гаманілі ціха травы
З хмызьнякамі над ракой.
Вечар выплыўшы з-за гаю
Ў небе зоры запаліў,
І здалося мне—сьпяваюць
Небасхіл, імгла, палі.
Люба слухаць сьпеў вячорны,
У абоймы ўзяў-бы шыр,
Рой пчаліны думак чорных
Супакою я ў цішы.
Захад сумны ў журавіне
Хмары звоняць у званы.
Вечар сіні па даліне
Расьцілае туманы.





Увосень.

# ЗА ДОЖДЖ

**Якуб Колас**

I

Ну-ж, была вясна сухая—
Люд такой не памятаў!
Як уляжа, як заграе,—
Дык канца сабе ня мае
Сухавей, каб ён прапаў:
Так і дудзіць, так і дудзіць
Ад усходу да цямна,
Проста вушы намарудзіць
І пяскі ў палёх абудзіць,
Чортам вые з-за гумна.
Ад зімы і да Міколы
Хоць-бы дождж прайшоў на час.
Люд гаротны, невясёлы
Шоў у цэрквы і касьцёлы,
Ў неба глянуўшы ня раз.
Валакліся на малебны,
Каб бог дожджык дараваў,
Дожджык пільна так патрэбны
У той час ліхі, ганебны
Для збажынкі і для траў.
А той дождж ня вёў і вухам,
Як-бы ён прапаў суздром,
Хоць ты ў неба бі абухам,
Хоць ты дохні пад кажухам,
Хоць у сьцену стукай лбом!
Рэчкі ўсюды памялелі,
Пераходзяць куры ў брод,
І стаяць па дзьве нядзелі
Згоны, сьпёршыся на мелі,—
Эх, марнуецца народ!..
Поп і ксёндз не памагалі,
Вецер вухам не павёў,
Хмары спалі ці прапалі,
І на шэлег не зважалі
Ні малітваў, ні тых слоў.

II

У сяле трывога,
Непакой, згрызота.
Охкае Гілёрык,
Божкае Дарота:
„Будзе галадоўля,
Людзям безгалоўе.
Прападзе збажынка,
Выдахне скацінка...
Дзе той дождж падзеўся?
Што ён так марудзіць?
Божа ты мой, божа!
Што ўжо гэта будзе?!"
Загулі кабеты,
Як у вульлі пчолы—
Трэба даваць раду,
Выратоўваць сёлы,
Ліха насланое
Трэба нейк адвесьці—
Ня жывым-жа ў зямлю,
Родненькія, лезьці!
Ёсьць-жа тут прычына,
Ёсьць яна, ня йнача!
Выкрыць яе трэба,
Вось у чым задача.
Можа даўся ў знакі
Людзям грэх Піліпаў:
Гад, у пост вялікі
На скрыпулі рыпаў!
Можа Сёмка вінен,
Што папа аблаяў,
Ды плявузгаў, быццам
Няма пекла, раю?
І такой распусты
Прыкладаў ня мала:
Грышка спавядаўся
І нажорся сала!
Не шануюць людзі
Ні пастоў, ні сьвята.
Хлопцы, падлы, дураць,
Дураць і дзяўчата.
І калі наогул
Глянуць справядліва—
Папсаваны людзі,
Мілачкі, на дзіва!

# Гора старое Андрэіхі

**Н. С—ны**

Шмат ужо гадоў жывуць на сьвеце старыя Андрэй і Андрэіха. Пражытыя гады доўгім ланцугом паўстаюць у вачох старэнькіх, калі яны ўстурбаваныя якім небудзь здарэньнем, пачынаюць успамінаць іх. Трудна сказаць, колькі гадоў Андрэю і Андрэісе: часта яны самі спрачаюцца між сабою аб гэтым і ўсё такі ня могуць напэўна сказаць, колькі ім гадоў: 65 ці 69; бо гэтыя гады згубілі свае межы зьліліся ў апавіты сівым туманом (як і валасы старэнькіх Андрэя і Андрэіхі), зачараваны, заблытаны клубок. Усё жыцьцё іх прайшло ў цяжкай працы на роднай зямельцы: цяжка ўявіць, колькі сьцежак, колькі разорак сахой, а пасьля жалезным плугам зроблена на гэтай зямельцы заскарузлымі, мазольнымі, рукамі. Дык ня дзіва, што толькі найбольш выдатныя здарэньні з жыцьця Андрэя Андрэіхі яскрава захаваліся ў іх памяці, але яны ня могуць распазнаць, у якім годзе адбылося тое ці іншае здарэньне.

А сягоньня старэнькі Андрэй мацней апіраецца на тоўстую палку і хоць цяжка старому рухацца, але ня можа ён ўседзець на адным мейсцы, а Андрэіха ніжэй апускае сваю сівенькую галаву, сарамліва стараецца захаваць крыху заплаканыя вочы. Відаць штось здарылася, штось закляпаціла старых.

Уздыхнула цётка Тарэся.
— Дарма, жоначкі, злуяцеся.
Праўда, грэшым мы, грэшым,
Чорта лысага цешым,
Ніводная з нас не сьвятая,
Толькі-ж прычына ня тая.
А паслухайце лепей мяне вы:
Усё ліха зачалося з Матэвы!
Гэта ён, ліхадзей,
Наклікаў бяду на людзей!
Ну, дзе-ж быць дабру, падумайце самі:
Плот гарадзіў між Юр'ямі!
Я й казала: „Кінь, трапёны!
Хто гародзіць між Юр'ёў?“
А ён—гэта забабоны,
Напляваць на іх... Шалёны!
Лаяў, гад, з апошніх слоў
Старасьвецкія ўстановы
І дзядоў не шанаваў,
А ня цяміў, безгаловы,
Што, стаўляючы плот новы,
Суш тым самым наклікаў!
Вы-ж на кем вазьмеце самі,
Хіба можна так рабіць?
Нішчыць звычай, што ня намі,
А складаўся ўжо вякамі
І вякі ён будзе жыць?!

III

Вось дзе яна, тая прычына!
І дзіва, што дажджу няма!
Ах, Матэва, Матэва-чума!
Ах, паганец-жа ён, лайдачына!
Напусьціліся адразу
Цёткі на Матэву
Разарваць яго, заразу!
Прывязаць да дрэва!
Абармот ён, абармот!
Вось зрабіў хто шкоду!
Зьнішчыць к чорту гэты плот,
Каб не было сроду!
— Ой, гарачкі не парэце!
Як рабіць, то ўжо рабіць,
А ня бух-барах!.. Маўчэце!
Так ня робяць справы ў сьвеце:
Мала плот той разбурыць,—
На пляц-хорму выступае
Катарына Верабей
І адразу ўсіх спыняе
І сама ўжо вядзе рэй:
— Трэба ў ночачку да ўсходу
Двойчы Нёман праараць,
Каб адвесьці перашкоду,
Ды самым саху па броду,
Жаначкі, нам пацягаць.
І тады ўжо плот мітрэжыць,
Каб ён там і не сьмярдзеў.
Так, жанкі, рабіць належыць,
Каб паветра ўсё асьвежыць
Каб мінуў нас боскі гнеў.



**Раніцою.**

А клопаты ёсьць. Вялікія, смутна-ўрачыстыя клопаты ў Андрэіхі.

Даўно ўжо на сэрца Андрэіхі лажыўся плаксівы смутак, калі яна, гледзячы на статнага, белакурага Антося, думала аб сумнай восені—калі яна разлучыцца з сваім сынам на колькі гадоў, а можа і на заўсёды, бо старасьць давала адчуваць сябе.

А моцна хацелася Андрэісе пажыць яшчэ, ведаць якое жыцьцё спаткае яе меншага сына Антося; хацелася пажыць з маладою нявесткаю, якая была ўжо на прымеце.

Павольна, але няспынна надыходзілі, цяжкія для Андрэіхі дні, калі яе любы Антось пойдзе служыць у армію. Вось за гэтым Андрэіха часта думала пра армію. Уяўляла яна сабе гэтую армію, як нешта аграмаднае, грымотнае і невядома-страшнае, але думкі ня былі складанымі; яны спыняліся на адным слове і шырока не маглі разыйсьціся.

Ведала Андрэіха, што цяпер армія ~~чырвоная. Не~~ адзін раз казаў ёй аб гэтым Антось; не адзін раз яна мела гутарку аб гэтай чырвонай арміі з сваім Андрэем. Уяўленьне малявала ёй чырвоную армію—чырвонай; у чырвоных вопратках, а на справе было зусім ня так, бо армейцы былі зусім ня ў чырвоным. Дык як зразумець старой Андрэісе, чаму гэтая армія Чырвоная?

Андрэіха старэнна рыхтавалася да прызначанага дню. Вылічвала гадзінамі, мерала на вока, рахавалася з Андрэем і ўсё такі ёй задавалася, ~~быццам гэты дзень~~ зьявіўся

IV

Ночка. Хаты, бы сьляпыя
Цёмнай плямаю стаяць.
Глухі вуліцы пустыя.
Моўчкі вербачкі крывыя
Думку нейкую таяць.
Дзесь агоньчык над ракою
Прабіваецца скрозь мрок
Ды працяжна сьвіст парою,
Сэрца рэжучы жудою,
Квола коціцца здалёк.
— Ціха вы, не гаманеце,
Бо абудзіце сяло!
Соху ў Дворны брод нясеце...
Юзя, Ганна! не драмлеце!
Стой! куды вас панясло?
Ды скарэй, толькі, скарэй!
Катарына вядзе рэй,
Так і звоніць, бы званок.
Ды парадкуе жанок,
Прызначае ролі
Тэклі і Аўдолі,
Зосі і Ганулі,
Каб саху цягнулі.
— А ўжо ты, Марыся,
За рагач бярыся,
Або ты, Агата,
Будзь у нас араты.—

Прыпынілі жанкі гоман
Ды з сахою йдуць на Нёман,
Ідуць важна, урачыста,
Каб зрабіць, як ёсьць, на чыста
І замкнёны дождж, як трэба,
На зямельку зьвесьці з неба,
Вось і Нёман мелкаводны,
Бесстароньні і халодны,
Гоніць-коціць срэбра-хвалі
На захад у тыя далі.
Месяц круглы, бледналіцы,
Як пірог той на паліцы,
Сьвеціць шчыра, колькі можа,
З палавіны падарожжа.
Ясны месячык! ты многа,
Ціха сьвецячы ў начы,
Бачыў сьмешнага і злога,
Ды ня выказаў нічога
І цяпер ты памаўчы.
Паднялі жанкі падолы
Ды аруць пясок той голы.
Раз прашлі з сахой па бродзе.
І другі прашлі і годзі.
Зноў гуртом нясуць саху
І хаваюць пад страху,
Бо мужчын яны баяцца—
Ім-бы толькі выскаляцца,
А ў Каруся Дзівака
Год ня сойдзеш з языка.

V

Нарабіў клапот
Той Матэваў плот!
Каля таго плоту
Расчалі работу.
Валяць гуртам жанкі нашы,
Як гавяда ў весну з пашы,
Іх вядзе Тарэся
І вядзе пад плот Матэваў,
Пад той плот, што дождж угневаў,
Сьвет яму завесіў.
Сам Матэва дзесь на сплаве,
Сын Матэваў сьпіць на лаве,
Ды ня сьпіць Аўгеня:
Пад свой плот імчыцца лётам,
Прытаіла дух пад плотам,
Цісьне кій у жмені,
Бо хто-ж беднай ёй паможа.
Як ня гэты ёмкі вожах,
Плот абараніці.
Стаіць, ловіць вухам зыкі,
Чуе—тлум ідзе вялікі,
Ловіць словы-ніці.
А Тарэся—вось хвароба!—
Сыпле словамі, як бобам,—
Вось ужо здалося!
Няма канца таму сьпеву
І ўсё плешча на Матэву,
А каб ты спраглася!
„Ну, чакай-жа ты, брахуха!
Што-ж ты плешчаш, падла-шлюха?
Дакраніся-ж плоту!
Адабʻю ахвоту!“

---

раптоўна.

Моцна дзівілася Андрэіха, калі Антось казаў, што ў гэты дзень цягнуць нумары. Яна ня верыла, каб завочне цяглі нумары, бо многа значэньня аддавала яна вялікаму нумару. Ого, вялікі нумар! Ня верыла яна, што хтось чужы будзе прабаваць шчасьце яе Антося. Жарты, ды й толькі!

А вось ужо сягоньня Антось ідзе ў горад на здачу. Сягоньня той дзень, які вырашыць усё!

Клопат для Андрэіхі. Дзіўны гэты дзень!

З найменшаю дробязьзю паўстаў у вачох Андрэіхі той дзень, калі ішоў на здачу яе старэйшы сын Рыгор. Было гэта ў 1916 годзе.

За колькі дзён да прызыву сум і сьлёзы запанавалі ў хаце Андрэя. Колькі сьлёз праліла тады старая Андрэіха! Енкі вырываліся супроць волі з сьціснутых больлю грудзей. Андрэіха выпраўляла Рыгора на сапраўдную сьмерць. Аб спатканьні нельга было марыць. Дык хаця наглядзецца на свайго сына хацела Андрэіха, каб яго вобраз на далей захаваць у памяці. А Рыгор за колькі дзён да прызыву хадзіў, як забіты—ня ведаў за што ўзяцца, што рабіць, каб разагнаць нуду: праца вывальвалася з рук і ён, як-бы назаўсёды разьвітаўся з роднай сямʻёй з сялібай; панура хадзіў, або спаў з нуды, а маці вартавала яго сон, ліючы горкія сьлёзы. А калі наваборанцы пашлі з вёскі, паветра напоўнілася жудаснымі енкамі.

Вось што было знаёма Андрэісе.

І на гэты раз яна зьбірала ў сваім сэрцы сьлёзы. Яна

— Вось ён плот, няшчасьце наша!
Тут заварана ўся каша!
Раскідайце чортаў плот!
— Раскідаць мой плот?! Папробуй!..
Сучка, сучка ты, хвароба!
Абармот ты, абармот!—
І Аўгеня—шусь з-засады!
Не яна—дасьць вожах рады,
А Тарэся—крок назад!
Анямелі жанкі нашы,
Так іх вожах той настрашыў,—
Не кабета, а вар'ят!
Ня ўжо-ж марна іх турбота?
Нёж назад вярнуць ад плоту?
Не, пастой, брат—дудкі!
Не дачакацца яе ліха!
І Тарэся, як ваўчыха
Налятае тутка:
— Не палохай, не палохай,
Шлюндра ты і замазоха,
Не махай мне кіем!
Распусьціла губы-трубы!
Як махну, дык зьбярэш зубы
І ня так завыеш!
— Ах, ты кручаная сука!
З-за цябе ўвесь сьвет гарыць.
Гэта ўсё—твая навука.
Лазіш, поўзаеш, гадзюка,
Каб каго дзе падкусіць,
Каб цябе нуда кусала,
Каб ты поўзала сама,
Каб спакою ты ня знала.
І дзяцей не аглядала!
Каб цябе ўзяла чума!
Каб ты, даў бог, піць маліла,
Сама стоячы ў вадзе,
Каб па горах ты хадзіла,
Ды каб сонца не сьвяціла
У вачох табе нідзе!—
Скончыла Аўгеня,
Пачала Тарэся!
— А каб ты крычала на свой жывот!
Каб табе язык павесілі на гэты плот!
Гарадзілі яго, каб табе загарадзіла вочы!
Каб ты-ж век тут хадзіла па ночы!
Каб ты не дачакала сьвятой нядзелі!
Каб на твой язык скулы паселі
А каб цябе задушылі залозы!
Каб праз твае робры сена цягалі козы!
Каб цябе заела нуда!
Брыда ты, брыда,
Падла насатая!
Ведзьма праклятая!
Заткала дурное!
Вон пашла ты, ліха насланое!
— Ой, ты мешалка, завала!
А няшчасны квач!
Каб мяне яна вон гнала?!
Вось табе—пабач!..—
Павярнулася Аўгеня
Дынамічна, шустра
І зьбянтэжанай Тарэсі
Паказала... „люстра“!
Не сьцярпела Тарэся абразы,
На Аўгеню насела адразу.
Ды Аўгеня стала рубам—
Як-бы дуб сапкнуўся з дубам!
Загулі яны, як восы,
Міг адзін—і хоп за косы!
Зашчамілі зубы,
Гыркнулі ад злосьці,
І няма тут жалю,
Ні тае літосьці.
— Ну, што, зьела?
— Што, ўкусіла?
— На табе!
— На і табе!
Хвіга двойчы ўжо схадзіла,
Двойчы ім насы чапіла
І праехала па лбе.
І прымоўклі. Ня пускаюць
З рук суседзкіх валасоў,
Толькі зрэдка прагукаюць,
Калі трапна адшукаюць
Забіяцкіх пару слоў.
— Сунастка!
— Капач!
— Мешалка!
— Квач!
— Заткала!
— Брында!
— Задрыпа!

---

думала, уяўляла сабе, што яе вочы выльлюцца разам з сьлязьмі. Многа сабіралася сьлёз у старэнькай, але калі падышоў прызначаны дзень, яны зусім ня ліліся. Зірнуўшы на жыцьцёрады, гарэзьлівы твар Антося, у старое маткі высыхалі ўсе сьлёзы. Яна не магла плакаць.

Антось у апошнія дні зусім не сумаваў. Ён толькі больш старэнна завіхаўся ля працы, каб падагнаць яе нанерад.

Пайсьці ў армію! Пабыць вольным, адараваўшыся ад наседжанага мейсца, пабачыць сьвету—ці-ж ня радуе ўсё гэта Антося?!

Не бяда, што ў вёсцы застаецца каханка Зося. Яна пачакае. А калі пачуцьцё каханьня і паказыча крыху сэрца—можа пасумуе крыху—мацней кахаць будзе.

Яшчэ за вячэраю матка казала Антосю.

— Чаму ты сам не пайшоў цягнуць нумар. Можа застаўся-б дома. Бывае шчасьце!

— Нумар ня дзе падзеўся, а рабочыя дні на вуліцы не валяюцца!—з задзёрам адказаў Антось.

Пасьля такіх слоў, яна, бы з скаргаю, зварачалася да Андрэя.

— Чаму ты яго не навучаеш; чаму ты яго не караеш? Прападзе ён там, калі будзе так рабіць.

— От, не прападзе! Чаго ён будзе прападаць?—апраўдваўся Андрэй.

Мацней апіраецца на сваю палку стары Андрэй. Стаіць моцна задумённая Андрэіха. Цяжка ёй зразумець новыя дні радасьці.

Вось у чым гора старое Андрэіхі.

— Дзындра!
— Ну, пусьці!
— Сама пусьці!—
І ня хочуць, ці ня могуць
Компромісу тут знайці.
— Ну, што будзе?
— Трасца будзе.
— Табе скула!
— Табе—дзьве!
І запыняцца, марудзяць,
А іх рукі ў галаве.
Ну?
— Гну!
— Каб цябе сагнула ў дугу!
— Каб цябе скруціла ў качаргу!—
Перапынак. Перадышка.
— Годзі, будзе вам, нябож!
Ну, палаяліся крышку,
І так пойдзе, дасьць бог, дождж.—
Іх тут годзяць
І разводзяць,
А яны,
— Як бараны.
Пашчапляліся і квіта,
Толькі пыркаюць сярдзіта.
Яны-б рады кончыць бойку—
Хіба-ж лёгка ваявацъ?
Але як з вайны ім выйці,
Каб той гонар захаваць?
— Ну, што будзе?
— А ня знаю.
— Дык пусьці!
— Пусьці сама!
— То-ж табе пусьціць я раю.
— Дык турбуешся дарма!
— Дык ня хочаш?
— Не, ня хочу:
— Ты пусьці, пушчу і я!—
Асядае пыл жаночы.
— Пусьці, ягадка мая!
— Ты пусьці галубка!
— Не. пусьці ты. любка!
— Я пусьціла!
— І я пусьціла!
— Ха-ха-ха! Глядзі. Тарэся:
Хмара прэцца. унь. ды як!—
Зірк—стаіць Карусь Дзівак!
— Слухай—дождж шуміць на лесе!—
І рагоча, аж кладзецца.
Аж дрыжыць яго гарляк.

1909 г.

---

## Іду, іду!

### І. Сярмяжны

Мае вы сьпевы!
А, я хацеў-бы,

Каб век цьвісьці!
Як рана-рана
Скрозь бель туману
У даль ісьці.

Хай лятуценьні
Плывуць, як цені
Варожбай дум:
А, я ў прасторы
А, я да зораў
Іду, іду.

І што мне межы
І пуць бяз сьцежак.
Я волат сам
Дзе перашкоды,
То больш разгону.
Найду я там.

І што мне вораг,
І страху шорах.—

Я мкнуся ў шыр,
У палёў раздольле,
Там болей волі
Ёсьць для душы.
Няхай з усьмешкай
Сваёю сьцежкай
Ідуць гады.
А, я хоць сьпевам
І дум напевам
Век малады.



Досьвіткам.

Хоць, я загіну
І ўсё пакіну
На век тады.
А сьвет убачыць
А сьвет адзначыць
Мае сьляды.

Вёска Дуброва,
Меншчына.

# У пушчы

**Янка Бобрык**

Я сёньня з дзядзькам Васілём выяжджаю ў глыб лясоў Палесься.

Шэрая раніца. Вэлюмам росным пакрыліся лугі сенажаці, на дарозе, чуць, чуць, вільготны пясок. Пяскі і пяскі, залітыя ўсходзячым сонцам, перасякалі нам дарогу, на якіх, дзе-ні-дзе, стаялі, як бяздомныя, нізкія, разьвесістыя хвойкі; абапал дарогі цягнуліся: лясы, перацятыя балотным хмызьняком, паляны, і ізноў лясы... Рэдка па дарозе сустракалі вёскі.

З кожнай хвілінай я чакаў лясныя абшары Палескае пушчы, веліч яе, хараство, аб якім я толькі чуў з вуснаў апавядальнікаў... За кожным паваротам дарогі, пры выезьдзе на новую паляну, я чакаў нечага нязвычайнага. І вось, пад'яджджаючы да вёскі Казловічы, перад маімі вачыма паўстала цёмна - синяя сьцяна. Павярнуўшы направа ад вёскі мы ўехалі ў гушчар лесу на вузенькую дарожку, здавалася, што мы апынуліся ў падземнай пячоры, бо высокія хвоі, бярозы, дубы панурыя абняўшыся верхавінамі, засланялі сваім веццем неба.

Глыб лясоў. Непралазны гушчар, едзеш, едзеш і ня ведаеш, дзе канчыцца бязьмежжа лясное. І чым далей, тым больш захапляешся імкненьнем, нясупынным крокам прасоўвацца далей, і далей. Хочацца акунуцца ў гэтых таемных прасторах, прагна хочацца разгадаць жыцьцё гэтай пушчы; ахапіць рукамі яго, як найшоўшы, абнімае маці згубленае дзіцё.

Едзеш, а канца нідзе ня відаць, цяжка напаткаць тут чалавека; толькі птушкі ды некаторыя зьвяры—пастаянныя жыхары пушчы—напаўняюць яе жывымі істотамі.

Толькі ўвечар, калі ўсё замаўкае, нават дрэвы ўпадуць у нейкі сон, сум, тады пушча здаецца нейкай задумённай, быццам чалавек у вялікім горы. Але гэта здаецца, а калі патонеш душою ў гэтай таемнасьці, дык адчуеш усю прыгожасьць, асалоду гэтай аксамітнай таемнасьці Палескае пушчы.

Бязьмежжа лясное... І раптам дзівішся, калі перад вачыма паўстае паляна, атуленая стромкімі кучаравымі бярозкамі, ды разложыстымі хвойкамі. У самым асяродку паляны стаіць нешта мураванае, круглае накшталт вялікай дзежкі,—гэта печ смалярні. Навакол печы стаяць бочкі: малыя, вялікія, нізкія, высокія,—якія хочаце; розныя трубы, трубачкі, канаўкі з смалою.

— Во было-б мазаць колы, на цэлае лета—гаворыць гледзячы на равок смалы, які небудзь дзядзька.

Водаль печы насыпана вугальле і поруч удала складзеныя ў казакі карчы. А каля самага лесу стаіць пахілая хатка, хатка пальшчыка і стоража Антося. Адзін ён жыве з сям'ёй у гэтай нетры.

---

# Што восень, то не вясна

**(Апавяданьне)**

**В. Сташэўскі**

Дзядзя Тодзя ўсё-ж такі Тодзя а ня проста Тодар. А чаму? Можа вы думаеце, што ён буржуйскага пахаджэньня, што такім далікатэсам яго абзываюць? Можа вы пабачыўшы яго сказалі-б, што толькі Ахрэмам якім яго і можна зваць, а ня Тодзем? Ну, і вядома памыліліся-б, бо калі глядзець на чалавека, то трэба глядзець з усіх бакоў. Пажадана бачыць яго ўлетку, узімку, раніцою, вечарам, у нядзелю і будны дзень, у „палажэньні", без „палажэньня".

Сьпярша заўважце, што ён гаспадар, мае жонку, дзяцей не лапых, карову, кабылу і ўсякі, як ён сам кажа, інтэграл для свае гаспадаркі.

Нікаторыя дзівакі дак ня любяць восені—ныюць, хныкаюць, кіснуць. А дзядзя Тодзя толькі і жыве, калі прыдзе восень, гэтая багатая нявестка. Адчыніш дзьверывека—гумна—куфра—поўненька. Цесна ўстаропены снапы жыта нібы зложана добрае палатно. А там збоку зьвісае кукалём увабраны авёс. А ячмень, пшаніца гарох!—Гэта-ж лепшыя строі ў куфры. А зьверху зялёнаю коўдраю муражное сена пакрывае ўсё. Ну, якжа ня радавацца! Ці-ж можна рабіць якое параўнаньне з вясною, гэтаю худою бяскроўнаю, кашчаваю паненкаю.

А глянеш пад страху—тут табе тытунь: мультан, бесарабчык, амэрыкан.

А кінеш вокам на страху



**У смалакурні.**

Адзін ён зжыўся з ёю. Нават хмурнасьць, таемнасьць і буйнасьць пушчы, адбілася на яго істоце і непасрэдна перадалася яго малым дзецям, якія падобны на маладых дзікіх зьвяркоў. Увайшоўшы ў хату можна пабачыць, як яны, напалову голыя, абшарпаныя, качаюцца па бруднай падлозе і з вялікім зьдзіўленьнем паглядаюць на сьвежага чалавека, хаваючыся ў куткі.

* * *

Вечарэла. Сонца сачылася праз густату бору і асыпала агністым дажджом паляну, у гэтых кроплях насыпы вугальля мігацелі нязьлічонасьцю іскраў.

Недалёка ад насыпу вугольля стаяла дзяўчынка. Яна так старанна зашывала пакі набітыя вугольлем, што нават не заўважыла калі я падышоў, а мо' знарок не хацела паказваць, што заўважыла мяне, зрабіўшы гэта раней.

— Добры вечар!

Яна ад нечаканасьці зьдзіўлена глянула на мяне, ветліва адказала на маё прывітаньне і зноў пачала зашываць пакі.

Я маўчаў. Яна, адчуваючы маю прысутнасьць, яшчэ з большай энэргіяй узялася за працу.

Я пачаў распытвацца, каб пачаць гутарку з ёю—куды вывозіцца гэтае вугольле.

Яна не адрываючы зірк свой ад паку адказала:

— Гэта мы рыхтуем на поезд—тут—тут табе, як карцэчы гарбузы зложаны.

Што гразка, ці скажам цёмна ўвечар, дык гэта глупства. Запаліш сабе карчагу на камінку—і сьвеціць і грэе. Навострыш ножык, закруціш папушу мультанчыку, нашаткуеш, патрэш далонямі, вось табе й „Экстрач ці“ „Бакунч-Куры“.

Падыдзе сусед адзін, другі, закураць усе, пахваляць за пахучасьць, за моц. А можа дзядзя Тодзя дазволіў каму ў сваёй хаце, свой тытунь у газэтку закруціць? Ніколі. Ён ніякі небудзь Тодар, што не разумее гігіены ці далікацтва.

Ён часам не пашкадуе паяровае фіранкі, калі выйдзе запас тонкае паперы. Зайздросьцілі часам суседзі на цыбучкі дзядзі, якія ён мастацкі рабіў з бэзу.

Пакуль гэтак гутарыш з суседзямі, глядзіш, неўзабаве зьяўляюцца на стол гуркі ў расоле, абразаная гарачая бульба. Вось тут табе і прахалоджвайся, калі хочаш і грэйся. Справа ўжо суседа ня даць зьвесьціся агню на камінку—падкладваць смалякі. Ну, а незакурыць ужо пасьля вячэры, гэта значыць неразумець смаку ў жыцьці.

Круціцца калаўротак.

Смычыцца доўгая, як ночка асеньняя, зрэбная нітка.

Выйдзеш на вуліцу—цёмна, хоць вока выкалі. А ў хаце ветліва мільгае аганёк. Закінеш гэта каню атавы ці канюшыны паўнюткія драбіны, няхай ведае дабрату гаспадара, а сам лажышся ў пасьцель.

Няхай сабе імжыць...
Няхай цалуе вецер халодную арабіну, ці грушу, а калі чуцен шумок ад гэтага пацалунку, то нават лепей сьпіцца.

Зводзіцца агонь на камінку, дагарае апошні смаляк, вось бліскаюць толькі вугольчыкі.

Бразнула Агата юшкаю

недалёка, у гэтым лесе праходзіць чыгунка.

У яе голасе чулася задаваленьне, упэўненасьць перад тым, што яна мне дае тлумачэньне, што яна вышэй за мяне тут—у прасторах лясных.

Я з замілаваньнем глядзеў на яе загарэлы твар, у якім хавалася сьветлая задумённасьць, мне хацелася зазірнуць у вочы гэтага твару, у вочы дзяўчыны лясоў...

Я стаяў і глядзеў,—і мо‘ з цікавасьці дзявочай, мо‘ ад напружанасьці—мой зірк патануў у чорных як гэты вугаль вачох дзяўчыны, і, толькі гэта сталася, як з дзікасьцю нейкай, маланкай, дзівосны зірк зьнік для мяне.

Мне хацелася глядзець і глядзець, бо іх я адчуваў: чуласьць песьні, таемнасьць ночы васеньняй, шырыню бязьмежжа лясного...

— Мікола! га Мікола! мо‘ паедзем?!

Я схамянуўся, я забыўся зусім, што мне трэба ехаць.

— Зараз, зараз—адказаў я дзядзьку, які стаяў ля возу з вугольлем, нарыхтаваўшыся ехаць.

Ноч.

Ціха шасталі дрэвы як-бы на разьвітаньне—мы выяжджалі з нетры лясной.

Выехалі ў поле.

Дзіўныя вочы дзяўчыны, пушча Палеская, зьліліся ў адно цэлае, у адзін дарагі для мяне ўспамін, які застанецца надоўга.

Палесьсе—ліпень.



СТАРЫ БЫХАЎ (з боку Дняпра)



паціху палезла пад коўдру.

Цёмная ночка васеньняя... доўгая ноч, добрая ноч. А прыдзе нядзелька—дзядзя Тодзя, надзеўшы белую кашулю з вышытым перадам, садзіцца за стол. На супроць яго, у другім канцы стала ляжыць касьцёр бліноў. На сярэдзіну стала зьяўляецца мачанка з баранінаю. Гэта даядаецца, прымерна першы баран, а ў засадзе кормяцца храпанамі ад капусты яшчэ два, дак чаго цырымоніцца, калі ёсьць.

Пад‘еўшы, зьнячэўку можна зачарэпіць прыгаршчу гарбузікаў—яны-ж тут на печы на чаране сушацца. Хопіць і на калядныя сьвяты. Якое надвор‘е ня было-б, а ў сьвяточны дзень—вылезеш, куды-небудзь і пабачыш сяго-таго, прыдумаеш сёе-тое. Прымерна заўсёды можна да Ігнацага зайсьці, выпіць бутэлечку - другую свае „рабоча - сялянскае“. Ігнацы свой чалавек і даволі далікатны (затым ён і ня проста—Ігнась, як іншыя) грошай ня будзе пытаць, а ціхенька падыдзе да гумна ці сьвіронка дзядзі Тодзі, атрымае мяшочак зярніны і квіта. Дзядзя Тодзя спакойна зачыняе дзьверы, быццам ён зрабіў важную гаспадарскую справу. Але-ж чаго непакоіцца? Каб ужо, ня дай божа, ня было, а тож... ёсьць.

Паедзеш у млын, там сабе памаленьку, не сьпяшаючыся можна малоць двое, трое сутак, хіба Гірш не пакорміць... Адсыпаў якую там поўасьмінку, дак і чаркаю пачастуюць. Чаго шкадаваць? Каб ня было, скажам, а тож... ёсьць.

Едзе дзядзя Тодзя з млына і песенькі пяе—сыты, п‘яны і нос у муцэ. Да каляд настрой у яго такі быццам ён уладае якім маёнткам і жыве, значыць, лепш за ўсіх сялян.

# І ШУМЯЦЬ І ШУМЯЦЬ

С. Ліхадзіеўскі

І шумяць і шумяць каласы.
І цьвітуць—расьцвітаюць куколі,
Так і вабіць прайсьці цяпер полем.
Эх пары загарэлай часы!
І шумяць і шумяць каласы.

І цьвітуць—расьцьвітаюць куколі.
А на полі гуляюць сярпы.
Хоць навокал цярусіцца пыл—
Не пашкодзіць ён працы ніколі!
Ў ячмянёх расьцьвітаюць куколі.

Так і вабіць прайсьці цяпер полем.
Штосьці шэпчуць мяцёлкі аўса.
Хутка тут загуляе каса—
Не зашэпчуць яны тады болей.
Так і вабіць прайсьці цяпер полем.

Эх, пары загарэлай часы!
Праца ўсюды, упартая праца:
Пот ня страшан—яго не баяцца...
Сушыць сонца жняі валасы.
Эх пары загарэлай часы!

І шумяць і шумяць каласы.
Пад сярпамі сьпявае салома:
Лашчаць вуха шумлівыя бомы.
Звоняць радасьцю дзесь галасы,—
Будзе так і жыцьцё каласіць!

Жнівень 1927 г.



М. Копысь, на Аршаншчыне.

Эх, каб цэлы год была восень!

Дык не, на табе на нашага брата зіму, а потым вясну. Яно-б можа й нічога, каб, скажам, адбыліся каляды і тут табе—вясна, дак дзе-ж яно так можа быць. Чакай гэтага цяпла, пакуль трава парасьце, ды новае жыта...

Адгулялі каляды. Ігнацы не адзін раз наведаўся да сьвіронка дзядзі Тодзі.

Да новае восені далёка, далёка...

Падыдзе дзядзя да суседа, наскрабе з капшука махоркі свайго вырабу, з цырбуноў і прапануе закурыць, але з маленькаю заўвагаю:

— А можа ў цябе лепшы ёсьць, то давай, бо гэта халера, пячэцца вельмі.

— Ці-ж гэта ўвесь пакурылі свой, што за таўчонку ўзяліся,—пытае сусед.

— А дай-жа рады, браце, чорт яго ведае, здаецца столькі было тытуню, думаў хопіць на тры гады і ліха яго ведае, дзе ён дзеўся...

І зноў жа,—здаецца і нажаў ня мала, здаецца павінна было-б хапіць на ўсю сям'ю болей чым на год, дак чорт яго ведае, браце, як яно разышлося, дзе яно дзелася, але досыць таго, што ня толькі, каб блінца якога, ці мачанку чым падкалаціць, дак хлеба няма з чаго рашчыніць, пазычаю ўжо колькі і ня ведаю, як далей цягнуць.

— Нічога, скора вясна,—кажа сусед.

— А няхай яна калом пойдзе, адказаў дзядзя Тодзя.—Гэта вясна мне ў печанёх сядзіць. Ня люблю вясны.

— Была-б і вясна крыху прыямнейшая, каб не вясеньняя чарачка поўная—падумаў сусед.

# „Крудель“

(Апавяданьне)

Рыгор Казак

Кірмаш кіпеў бурнай крыніцай. Крычалі нешта, штурхаліся. Беглі сюды-туды, як мурашкі ў купніку.

Тоўстая гандлярка піскlівым голасам надрывалася, бягучы за барадатым нейкім дзядзькам.

— Пачакай дзядзька! Хочаш два рублі?

Той ў адказ адмахвае рукою, а потым як-бы ў задуменьні супыняецца і раптоўна пытае:

— Ну, а дасі два і тры злотых? Бяры... А не—адчапіся.

Недалёка ад возу, дзе сядзеў стары Нічыпар Мянейчык са сваёй жонкай Мар'яй сьпяваў сіпаваты грамафон.

А радам сварыліся за гнілыя падэшвы.

Нічіпар глядзеў ва ўсе бакі: усё яго цікавіла, дзівіла. Даўно ён ня быў на кірмашы, ды наогул у горадзе. Сыноў узгадаваў і тыя даюць супакой старым косткам: самі ў горад па справах езьдзяць, ня турбуюць старога...

Сёньня-ж неяк ледзь-ледзь выбраўся сам са сваёй бабай. Захацеў паглядзець, што цяпер робіцца ў горадзе? Якія парадкі, што новага.

І сядзіць дзед, прадаючы пшаніцу, пад глыбокім уражаньнем ад усяго, што ён бачыў, калі праяжджаў па гарадзкіх вуліцах.

Новыя шыльды, назвы, дамы збудаваныя... І людзі нібы ня тыя.

І дзеду Манейчыку здаецца, што і ён маладзее; робіцца новым чалавекам, бадзёрым, сьвежым...

— Заснуў ты, ці што?—штурхае пад бок локцем Нічыпара Мар'я:—Купец пытаецца колькі ты просіш за пшаніцу?!.

Дзед павярнуўся і зірнуў на чалавека, які стаяў каля возу.

* * *

Невядома ці здалася таму малая цана ці добрая пшаніца, толькі на твары шчуплага гандляра прабегла вясёлая радасная ўсьмешка і, цмокнуўшы ад здаваленьня губамі, ён сказаў Нічыпару:

— Хадзем! У мяне зважым. Ды па чарцы яшчэ, так сказаць, для пачыну. Гут?

Гут!—дружацкі падцьвярдзіў дзед і пацягнуў мех у крамку.

З крамкі варочаўся вясёлы, як вясновы дзень.

Чырвоны, спацелы твар быў у старога. У руках трымаў серабро, што ўзяў за пшаніцу. Скрозь пялёнку ў п'яных вачох паглядаў Мянейчык на грошы, хістаючыся на хаду, пералічваў па некалькі раз.

І з вясёласьці, якую надаваў хмель, прыходзіў ён у абурэньне:

Гад! Ашукаў мяне, падлюга. Паўрубля не дадаў. Хіба вярнуцца? Не—позна!

Скажа: „згубіў можа?“ Што рабіць?

Што рабіць? А я яшчэ з ім за свае ўласныя грошы выпіваў. Эх, спэкулянціна...

Нічыпар апусьціў рукі.

З боку ад яго гула вялікая гурба людзей.

У сярэдзіны іх стаяў лётарэйшчык каўкаскага тыпу, з магеркай на галаве, і вярзіў нейкую лухту.

Шпаркі язык яго сыпаў шротам бяз сувязі словы: Ленінград, Харкаў, Масква, Адэса, Амэрыка, Італія, Францыя... Мар'я Іванаўна, Сямён Пятровіч дома!

Падыходзьце грамадзяне. Бяспройгрышная лётарэя! Падыходзьце, прабуйце шчасьця!

Ленінград, Масква, Адэса, Харкаў...

У гэтых словах бяссэнсавых ёсьць нейкая, мусіць, сіла. Нешта арыгінальнае чуецца ў іх таму яны прыцягнулі ўвагу п'янага Нічыпара.

* * *

Штурхаючыся праз кучу мужчын падступіў Мянейчык да століка, на якім стаяў цыфэрблят са стрэлкай.

Пробуйце, грамадзянін, шчасьце!—зьвярнуўся да яго чорнамазы лётарэйшчык—бяспройгрышу. Можна выйграць: лейцы, чаравікі, ножык, сякеру... Дваццаць пяць капеек... Нядорага. Пробуйце!

Раскінуў дзед п'яным розумам і рашыў:

— Пакручу стрэлку! Мо' якую хусьціну бабе выйграю, дык і сваркі ня будзе за пшаніцу.

Закруціў стрэлку і чакае.

Глядзіць, дзе застановіцца.

А каўкаская магерка ўставіўся на цыфэрблят прагнымі вачыма. Сілаю зірку хоча адвесьці стрэлку на лічбы з дробнымі рэчамі, і раптам са здаваленьнем уздыхнуўшы моцна выкрыквае:

— Бярэце грамадзянін!

І даў Нічыпару медны пярсьцёнак.

— А што! Не казаў я, што гэты круцель у цябе грошы за ні вошта выкруціць!—падсунуўся бліжэй да Мянейчыка незнаёмы, з рыжай казьлінай барадкой чалавек, іранічна падсьмейваючыся.

— Глупства—задорна ўскіпеў п'яны Мянейчык:

— Цяпер, як за-а-кручу... гэты вось кіёк, дык... дальбог, адразу бабе чаравікі выкручу!

Дзьве срэбныя монэты бразнулі на талерку.

Чорнамазы пасьпешна схапіў і схаваў у кішэню. Стары закруціў.

— Бярэце шлюбны пярсьцёнак—з нейкай усьмешкай падае лётарэйшчык Нічыпару ізноў такую-ж мядзяшку.

— Хэ-хэ-хэ—нехта ў гурце ядавіта засьмяяўся:

— Ці ня думае стары жаніцца?!

А ў старога Нічыпара толькі злосьць расла, агнём выпальвала нутро, а разгарачаныя мазгі штурхалі паспрабаваць шчасьця яшчэ і яшчэ.

Вось дзед выйграў бляшаную лыжачку, пару цукеркаў, пачак сярнічак, махоркі і ўрэшце—іголку за апошнія капейкі.

Крыўдна зрабілася Нічыпару.

Хацелася страсануць з усяе моцы круцеля за каўнер, але хмель праходзіў і ён не адважваўся. І толькі ў злосьці рассыпаўся моцнай адрывістай лаянкай.

* * *

Ужо вячарэла.

Мянейчык сядзеў на возе апусьціўшы голаў і штосьці мармытаў.

Конік трусцою бег дадому.

Мар'я сядзела побач і зьвягліва лаяла свайго мужыка:

— Ну і чалавек! Жывёліна, а не чалавек!

Падумаць толькі! Круцялю, нейкаму чорту лысаму, апошнія грошы аддаў. І дзе ў цябе розум, стары?

Пракруціў можа і розум свой? А? Дурань ты... палена гнілое...

Нічыпар заплюшчыўшы вочы, не пярэчыў. Маўчаў.

Мар'я не пакідала лаяцца.

Нічыпар патузваў лейцы і пляваў цераз аглобіну на дарогу. Кісла было ў яго ў думках.

---

## Шум хваляў гордых

### С. Шушкевіч

**Стаю на беразе каменьнямі укрытым.
Мяне шум хваляў гордых ап'яніў;
Тут чуюцца зусім нязнаныя мне рытмы,
Далёкія ад родных каласістых ніў.
Нудлівы голас чайкі белакрылай
І крык у далі дружных рыбакоў,
З якою ў сэрцы патаемнай сілай
Зрываюць невядомасьці цікавай сон.
А хвалі пеняцца рвучы каменны бераг,
Ўразаюцца у шчыліны разьбітых камянёў.
І мне ня хочацца чамусьці верыць,
Што гэта так; здаецца—гэта сон.**

**Імчыцца карабель, сьцягоў разнакалёрнасьць
Яго зіяе перад сонцам хараством.
А хвалі перад сілаю яго згінаюцца пакорна
І рассыпаюцца бліскучым серабром.
Стаю на беразе каменьнямі укрытым.
Мяне шум хваляў гордых ап'яніў;
Тут чуюцца зусім нязнаныя мне рытмы.
Далёкія ад родных каласістых ніў.**

**Ленінград.
Травень 1927 г.**

## Ноч

### І. Сярмяжны

**Я радыё слухаў, а пасьля вышаў...
Цяпло, цяпло... Вакол заціша...
Зара румянілася ружай.
То быў вясеньні гожы, гожы
Вечар. Ах вёска, вёска!
(І сэрца стукае ў грудзях).
У небе сьветлаю палоскай
Ляжаў малочны шлях.
Заціхла ўсё і сьпяць адлогі
І толькі роіцца бляск зор.**

**А месяц вышаў строгі, строгі,
Вартуе змрочны ўночы бор.
А думкі рвуцца, рвуцца роем
Туды у прасторы, у глыб палёў,
Дзе водблеск ночы неба кроіць,
і бельлю сьцелецца на лог.**

**Вёс. Дубрава,
Меншчына.**

# Літаратурныя творы прозай вясковых аўтараў

**Кузьма Чорны**

## 1. АГУЛЬНЫЯ ЗАЎВАГІ

У свой час зазначалася, што тым літаратурным матар'ялам, які надсылаецца з вёскі ў рэдакцыю, у пераважнасьці зьяўляюцца вершы. Літаратурнае прозы рэдакцыя атрымлівала вельмі мала; яе амаль ня было зусім, калі ня лічыць тых допісаў —літаратурных малюнкаў, якія пісаліся некаторымі селькорамі да юбілейных сьвят і ўсялякіх газэтных кампаній. Тымчасам, з некаторае пары, стала наглядацца нешта іншае. У параўнаньні з ранейшым часам, досыць значны процант усяго літаратурнага матар'ялу, што надсылаецца з вёскі, падае на прозу.

У большасьці сваёй вершы, якія дагэтуль атрымала рэдакцыя, маюць трафарэтны характар—аўтары іх або пераймаюць цалкам матывы з ужо надрукаваных вершаў, або пішуць верш хіба толькі для таго, каб напісаць яго, стала ня думаючы над ім. (Бязумоўна, нельга вельмі дакараць гэтым некаторых вясковых аўтараў, прыймаючы пад увагу абставіны вясковага жыцьця—адсутнасьць патрэбных кніг і інш.). У такой меры сказаць гэта аб прозе вясковых літаратурных дапішчыкаў нельга. Тут большы (чым у вершах) процант аўтараў імкнецца больш-менш сур'ёзна падыйсьці да тэмы, стараючыся нават часам сумленна падумаць у сваім творы аб якім-небудзь глыбокім пытаньні сучаснага вясковага жыцьця. Канешне, толькі некаторая частка вясковых кустароў надыходзіць так да сваіх літаратурных спробаў. І сярод прозы не малая частка ёсьць такое, якая напісана нядбайна, неахайна і нарэшце яшчэ прыслана ў рэдакцыю з грозным патрабаваньнем абавязкова надрукаваць яе. Даведаўшыся, што такі твор ня выдрукаваны, аўтар пачынае вельмі крыўдзіцца на рэдакцыю, даводзячы, што той факт, пра які напісана ў яго літаратурным допісе, ёсьць „факт жыцьцёвы“; пры гэтым аўтар ускладае на рэдакцыю абавязкі зусім перакройваць і перапісваць яго твор, зусім зьмяняць яго. Гэта значыць—аўтар дасьць тэму, а рэдакцыя павінна сама, паводле гэтае тэмы, напісаць аўтару, за яго подпісам, апавяданьне.

„Чырвоны Сейбіт“ я разглядаю як часопіс, якая павінна мець дзьве асноўныя задачы: паводле сваіх тэхнічныхмагчымасьцяй знаёміць вёску з дасягненьнямі нашай літаратуры, і з літаратурным жыцьцём і—з вялікага ліку дапішчыкаў, якія спробуюць пісаць літаратурныя творы, дапамагчы выявіцца сапраўдным поэтам і пісьменьнікам. Матар'яльна—тэхнічныя ўмовы не дазваляюць, пакуль, як-бы належала выканаць першую задачу, якая вельмі дапамагла-б зьдзяйсьненьню другое.

*От-жа падыходзячы да другое задачы,* разгледзім літаратурныя спробы і пачынаньні вясковых аўтараў, што напісаны прозай. Для гэтага ўвесь матар'ял патрэбна падзяліць на дзьве асноўныя часткі: папершае—гэта творы, якія з літаратурнага боку вічым цікавым не вызначаюцца, зьяўляючыся звычайнымі корэспондэнцыямі, напісанымі ў форме і па меры апавяданьняў ці літаратурных малюнкаў. Сюды належаць допісы да розных кампаній, да юбілейных сьвят, таксама ўспаміны аб нядаўных падзеях—вайна, окупацыя, партызанскае змаганьне з палякамі і інш. Гэты матар'ял паступова друкуецца ў газэце „Беларуская Вёска“, выкарыстоўваецца як матар'ял сэзонны. І гэты матар'ял мы тут разглядаць ня будзем, на яго даюцца і будуць давацца адказы ў паштовых скрынках „Чырвонага Сейбіту“ і „Беларускай Вёскі“. Другая частка—гэта творы, якія могуць быць у тэй ці іншай меры цікавымі з боку літаратурнага. Якія паказваюць, што аўтары іх імкнуцца, ці пры належных умовах могуць імкнуцца, памастацку намаляваць, жыцьцё вёскі, вырашыць ці паказаць некаторыя пытаньні гэтага жыцьця. Праўда, не заўсёды сам па сабе твор гаворыць аб усім гэтым, але чытаючы яго, можна часта адчуць наяўнасьць здольнасьці ў аўтара, І хоць твор гэты друкавацца ня можа, аднак праз яго можна зацікавіцца аўтарам. Вось такія творы, побач з творамі, якія маюць ужо нейкую літаратурную вартасьць і могуць быць выдрукаванымі і падлягаюць увазе.

Ёсьць апавяданьні, аўтары якіх павярхоўна, не працуючы доўга, на скорую руку даюць які-небудзь малюнак, нават мусіць ня думаючы для чаго пішацца гэтае апавяданьне. Ёсьць апавяданьні не мастацка-тэндэнцыйныя, у якіх аўтары ім-

кнучыся паказаць што-небудзь дададнае (часам і адмоўнае) згушчаюць фарбы, пераўвялічваюць факты і робяць апавяданьне неправўдзівым, якое набывае характар агіткі. Такога гатунку апавяданьні таксама будуць разгледжаны.

Ёсьць аўтары, якія сумленна і з любасьцю да свае працы імкнуцца зрабіць сваё апавяданьне мастацкім. Ёсьць некалькі вельмі маладых аўтараў, у якіх пачынае выяўляцца талент. Таксама ёсьць аўтары, якія ахвачаны ўпартаю думкаю стаць пісьменьнікамі, над творамі-ж сваімі яны, аднак, вельмі мала працуюць і разам з тым крыўдзяцца на рэдакцыю, што допісы іх ня друкуюцца.

Падлягае ўвазе тэматыка вясковай творчасьці. Тэмы ў апавяданьнях закранаюць самыя цікавыя бакі жыцьця сялянства. Іншая справа, як тыя тэмы распрацованы, самі-ж яны па сабе цікавяць вельмі. Тут жыцьцё парабкоў, усялякія здарэньні ў вясковай глушы; тут часам аўтар проста імкнецца даць якога-небудзь вясковага тыпа; тут імкненьне вясковай моладзі ў горад вучыцца. Часта вельмі трапна даюцца малюнкі прыроды. Даюцца малюнкі з часоў пачатку рэволюцыі і наступнага яе ўстанаўленьня; ёсьць спробы даць адбіткі некаторых праяваў сучаснага жыцьця вёскі, на фоне сучаснае перабудовы сельскае гаспадаркі. Знаходзіць свой адбітак у гэтых творах і Чырвоная армія, у тым разрэзе, як моладзь ідзе на прызыў і што выносіць пасьля службы.

Часам аўтар імкнецца даць адчуць тое абнаўленьне, якое прынясла рэволюцыя— напрыклад, як сялянка пачынае жыць іншым духоўным жыцьцём, як сплывае тая адвечная цемра і забітасьць, якія апаноўвалі яе з прадвеку, як у яе абуджаюцца новыя думкі, як яна пачынае адчуваць сябе чалавекам, пасьля свае ранейшай забітасьці. Ёсьць матывы сьмерці, каханьне, і зьвязаныя з гэтым трагізмы чалавечага жыцьця. У некаторых апавяданьнях наглядаецца чулае, індывідуальнае ўспрыйманьне ўсяго навакольнага...

Можна сказаць—тэматыка багатая, асабліва, калі параўнаць з тэматыкаю вершаў, дзе амаль скрозь або аднальковыя малюнкі прыроды, або трафарэтныя агіткі на тэму дня, або й проста бяз тэмы.

Сюжэты-ж гэтыя апрацованы порознаму, але ў большасьці заўважваецца нейкі адзін, як-бы агульны плян у распрацоўцы тэм, які мусіць успрыймаецца аўтарамі ад чытаньня друкаваных твораў.

Таксама падлягае ўвазе і мова гэтых твораў.

От-жа ў наступных нумарох „Чырвонага Сейбіта“ і разгледзім гэтыя творы, ставячы перад сабою задачу дапамагчы з гушчы вясковых літаратурных дапісчыкаў, выявіцца сапраўдным пісьменьнікам. Тое, што годна да друку, будзе друкавацца; часта пры значнай рэдакцыйнай апрацоўцы—гэта дапаможа вясковым аўтарам у іх далейшай працы.

---

# Нататкі аб літаратурным жыцьці Англіі і Ірляндыі

**(Па матар'ялах, што атрыманы з Англіі на мове эспэранто)**

**Сьнежка**

Азнаёміўшыся з літаратурай Англіі апошняга стагодзьдзя, вельмі цяжка сказаць ад каго і калі пачынаецца пралетарская літаратура. У апошнія гады XIX стагодзьдзя цэлы шэраг так званых буржуазных пісьменьнікаў, выступілі на літаратурную ніву з творамі аб пралетарыяце, аб лёнданскай, манчэстэрскай беднаце. Сярод некаторых з гэтых паэтаў знаходзіліся і такія, што выйшлі з шэрагаў рабочых і маладыя гады працавалі ў якасьці рабочых на фабрыках Англіі. Потым яны рабіліся служачымі, дэкласіраваліся, рабіліся паэтамі і журналістымі, якія калі-ні-калі высьвятлялі ў творах дрэннае і цяжкае жыцьцё беднаты-рабочых. Але гэта было выпадкова і гэтыя творы былі няпрыкметны сярод іншых твораў гэтых паэтаў.

Лічаць, што шэраг паэтаў—Роўлэнд Кэнны, Стэсее Хайдэ, і інш. ангельскія паэты, якія выйшлі з шэрагаў рабочых— былі пралетарскімі паэтамі. Ці-ж сапраўды былі яны пралетарскімі? Як толькі пачалася ўсясьветная вайна, зьяўляецца твор Р. Грэссола „Філантропы ў падраных портках“, у якім Грэссола даў малюнкі з жыцьця рабочых будаўнікоў. Ра-

бочыя Грэссолы „сацыялісты“, якія вераць гаспадарам і ня вераць у сацыяльную рэвалюцыю. Сюды трэба аднесьці яшчэ паэтаў Уэльса і Б. Шоу, якія ў творах аб'вяшчаюць змаганьне буржуазнай маралі, аднак ня думаючы зруйнаваць зусім асновы буржуазнага грамадзянства. Яны вядома, супроць рэвалюцый, асабліва сацыяльных.

„Ноты пратэсту“—малюнкі праўдзівага трагічнага жыцьця рабочых, гучаць зусім без абурэньня, без клясавага пратэсту.

Так гучаць творы Р. Кэнні (асабліва яго творы, што сабраны ў кнізе „Кошык карабейніка“) і С. Хайдэ. Паводле іх твораў рабочае жыцьцё цяжкое, сьмерць рана забірае рабочых, але гэта жыцьцё будзе такім заўсёды, бяз зьмены, без прасьвету.

У творах Р. Кэнні і С. Хайдэ, яны нідзе не становяцца на рэвалюцыйныя пазіцыі.

Праблемы сацыяльнага змаганьня і сацыяльнага жыцьця зачапіў ў сваіх творах Гэлстурсі і шэраг паэтаў ірландцаў, якія самі прымалі і прымаюць актыўны ўдзел у змаганьні за вызваленьне Ірландыі з пад апекі Англіі. Некаторыя і згінулі ў гэтай барацьбе, як напр., Патрык Пірс, якога пакаралі сьмерцю ў 1916 г. за ўдзел у змаганьні.

Творы паэтаў ірландцаў Рычарда Фокса (комуністы), П. М. Гілля і Л. О. Флагэрці—у якіх высьвятляюцца асобныя малюнкі з жыцьця рабочых, дзе кожны радок дыша абурэньнем-протэстам супроць кіруючай ангельскай буржуазіі.

Р. Фокс напісаў адну кніжку „Фабрычнае рэха“. Сам Р. Фокс быў рабочы мэталісты і ў часе імпэрыялістычнай вайны адмовіўся ісьці на вайну. За гэта яго пакаралі. У сваёй кніжцы навэл і этудаў, ён даў малюнкі з свайго жыцьця альбо з таго жыцьця, якое ён бачыў навокал сябе.

П. М. Гілль—ірляндзец, быў парабкам, абмяняў цэлы шэраг прафэсый, быў вуглякопам, матросам, капальшчыкам бульбы, зямлякопам сельск.-гаспад. рабочым, і інш. Ён сам ня толькі пісаў, але і прадаваў свае першыя творы.

Ён напісаў некалькі кніжак. Трэба адзначыць яго кніжку „Дзеці мёртвага вугла“.

— На якое ліха нам патрэбны каралі, расфуфыраныя пані і цэрквы—так кажа адзін з гэрояў яго раману і гэта амаль што галоўная ніць ува ўсім творы. „Дзеці мёртвага вугла“ зьявілася даўно, у 1915 г., а яго апошнія творы ўжо носяць зусім іншы характар. Яны нічым не адрозьніваюцца ад усіх ангельскіх прыгодніцкіх раманаў, якіх сотнямі выкідваюць выдавецтвы на рынак.

Шлях П. Гілля вельмі падобны да шляху другога, ня менш таленавітага пісьменьніка, таксама ірландца—Ліем-О' Флагецці. Жыцьцё гэтага паэты—зьяўляецца нібы прыгодніцкі раман. Сам ірляндзец, ён у часе вайны б'ецца ў акопах Францыі, дзе ў 1918 годзе робіцца комуністым і потым вандруе на караблях па сьвеце, то як матрос, то як качагар, то як афіцыянт, грузчык і інш.

У 1921 годзе прымае ўдзел у паўстаньні ў Дубліне. Потым адыходзіць ад змаганьня і садзіцца за пісаньне. Ён напісаў ужо шмат твораў.

Першыя творы Флагецці прысьвячае сваёй бацькаўшчыне—Ірляндыі і барацьбе за яе вызваленьне. Гэтаму прысьвечаны творы: „Даведка (роман), „Шантаж“ (апавяданьні), „Грамадзянская вайна“, „Тэрарысты“. Быту і высьвятленьню жыцьця Ірляндыі прысьвечаны творы „Жонка майго суседа“, „Вясновая рунь“.

У апошнія гады Флагецці выпусьціў некалькі апавяданьняў з жыцьця жывёлы і зьвяроў і некалькі раманаў з прыгодніцкім зьместам. Калі ў першых творах Флагецці, як тэма так зьмест былі сацыяльнымі, дык у апошніх, ён адышоў ад сацыяльных матываў і ўзышоў на лёгкі шлях—прыгодніцтва.

У апошні час зьявілася некалькі маладых, блізкіх пролетарыяту пісьменьнікаў, але яны яшчэ ня выявілі сваёй творчасьці, ня далі яшчэ чаго-небудзь арыгінальнага. Усе яны гуртуюцца навокал Камуністычнай ангельскай газэты. У іх творчасьці больш бадзёрасьці і заклiку да змаганьня, чым у пісьменьнікаў „сацыялістых“, якія зьмянялі „сацыяльнае“ на „прыгодніцкае“.

# Яшчэ аб якасьці мовы

Пытаньне аб якасьці беларускае мовы ня раз ужо абгаварвалася на старонках нашага друку. Але на вялікі жаль—гэтая надакучлівая „якасьць“ у нас яшчэ ніяк не пасунулася наперад. Ня так даўно тав. Віленстовіч на старонках „Савецкае Беларусі“ зазначаў аб недахопах у працы карэктуры газэт. Праўда карэктарскія памылкі—значны недахоп газэты. Але яшчэ горш бывае, калі карэктарскіх памылак няма, а ёсьць, як зазначыў нядаўна тав. Эмгор (гл. Зьвязда № 197) памылкі „вышэйшых рангаў“. Я маю на ўвазе для прыкладу артыкул тав.Элькінда, што быў зьмешчаны ў „Зьвязьдзе“ і „Савецкай Беларусі“ ад 23 жніўня 1927 году. Неабходна адзначыць, што артыкул у арыгінале напісаны на расійскай мове, а для друку быў перакладзены на мову беларускую, пры чым кожная рэдакцыя рабіла пераклад самастойна. Вось тут і пачынаецца... Вось тут і шукай якасьці... Вось тут і сапраўды „стрэлачнікі вінаваты“...

Справа ў тым, што часта перакладчык пры перакладаньні таго ці іншага артыкулу не знайшоўшы ў „практычным расійска-беларускім слоўніку“ адпаведнага тэрміну перакладае, „як бог на душу палажыць“: ужывае русіцызмы, правінцыялізмы, нэолёгізмы і іншыя „ізмы“. Адным словам, так узбагачаецца беларуская мова, што часам чытаючы артыкул нельга зразумець у чым тут сэнс.

Дарэчы будзе паказаць вынікі перакладу памянёнага артыкулу тав. Элькінда.

Для лепшай выразнасьці ўсе пераклады падаюцца роўналежна:

| АРЫГІНАЛ | «САВЕЦКАЯ БЕЛАРУСЬ» | «ЗЬВЯЗДА» |
|---|---|---|
| добросовестный | добрасумленны | сумлены |
| извращения | вывыхі | скажэньні |
| язв | хваравітых месц | балячак |
| известные | вядомыя | пэўныя |
| болезнь | хваравітае месца | хвароба |
| своеобразная | асабістая | свая асаблівая |
| халатными | нядбайнымі | недбальнымі. |
| из села Плоскае | з сяла Лоскава | з вёскі Плоскае |
| ряд фактов безобразной затяжки. | гэтыя агіднае зацяжкі | шэраг фактаў брыдкае зацяжкі |
| отдельные | некаторыя | асобныя |
| образцовый | прыкладны | узорны |
| невнимательного, нечуткого отношения. | надбайных, нячуткіх адносін | няўважлівых, нячулых адносін |
| травить за волокиту | травіць за валакіту | цкаваць за цеганіну |
| надо | патрэбна | трэба |
| необходимо | неабходна | трэба |

і шмат іншых.

Тут, зразумела, эквілібрыстыя мовы скажуць: „што-ж тут недарэчнага. Гэта толькі сьведчыць аб тым, што беларуская мова вельмі багатая і можна ўсякі небеларускі тэрмін пераклАсьці на беларускую мову некалькімі беларускімі словамі“.

Ці можна так зрабіць, ці не—спрачацца ня будзем, а толькі зазначым, што ня ўсякае «хваравітае месца»—ёсьць «язва» ці «болезнь», або „травить за волокиту“, хаця і напісана беларускімі літэрамі і ў беларускай транскрыпцыі (гл. „Савецкая Беларусь“), але будзе азначаць не „цкаваць за цаганіну“, а рабіць суседу патраву („травіць“, „патравіць“) за тое, што ён валочыцца „валакіта“, „валакітнік“, „валацуга“) за нечаей каханаю дзяўчынай ці жонкаю. Дарэчы будзе заўважыць яшчэ памылкі і зусім іншага парадку.

У рэдакцыю часта прыходзяць артыкулы адказных працаўнікоў на беларускай мове. На вялікі жаль, шукаць якасьці беларускае мовы ў гэтых артыкулах ня прыходзіцца.

Вось характэрныя прыклады:

№ 1. „Такім чынам самкнутым строям дзейнасьці партыі, ворганаў КК-РСІ, савецкай грамадзкасьці, суда раскладаючае дзеяньне растрат удалося паслабіць“.

№ 2. „Савецкімі ворганамі праведзена значная дзейнасьць па ўзмацненьню барацьбы з віноўнікамі хішчэньняў“.

№ 3. „Адзначаючы паасобныя недалікі РКК надае ў задачу АКК-РСІ праводзіць дырэктыву партыі“ і г. д. („Аб барацьбе з растратамі“, А. Вінаградаў).

Вось тут ужо ня „стрэлачнікі вінаваты“, а жарты пяра больш адказных... працаўнікоў.

Такія матар'ялы зьмяшчаюцца як у „Савецкай Беларусі“, так і ў „Зьвязьдзе“, і такіх прыкладаў можна было-б набраць тысячы.

А трэба памятаць, што абедзьве газэты—масавыя, натуральна, у шмат якіх чытачоў паўстаюць пытаньні: каго слухаць, на каго арыентыравацца, у каго вучыцца.

Наогул, пытаньне аб якасьці беларускае мовы павінна быць на першым месцы ў парадку дню нашых як цэнтральных, так і правінцыяльных газэт.

**Валога. Бабровіч.**

# ПАШТОВАЯ СКРЫНКА

**М. Чаромху.** Зайдзеце ў рэдакцыю пагаварыць наконт вашых вершаў.

**Рыгору Камлыгу.** Ваш верш „...вецер за вакном“ паказвае, што Вы сапраўды адчуваеце харaство і вялікасьць жыцьця. Верш глыбокі сваім лірычным настроем. Толькі заўважаецца неапрацаваннасьць гэтага вершу і сустракаюцца няўдалыя вобразы і звароты. „Вецер пяе **соло**“—гэта гучыць празаічна, побач з суседнімі радкамі. „Дастаў з кішэні я **блёкно**!“—псуе ўвесь верш таксама сваёю празаічнасьцю. „Зацьвіў мой погляд **цынамонам**—няўдалы вобраз. Само-ж слова «погляд»—не на месцы. Пабеларуску погляд—тое самае, што па расійску „взгляд на вещи“, або „суждение о вещах“. Вам трэба было напісаць „зірк“. А як гэта разумець—„зарніцы вішаць“? Вось галоўныя недахваты вершу. Сваім-жа размахам верш робіць добрае ўражаньне. Грунтоўнае пераапрацуйце, тады надрукуем.

Адказны рэдактар **Р. Шукевіч-Траццякоў.**

Галоўлітбел № 25251. Менск, 2 друк. БДВ. Надрукав. 12.500.